Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ГАЛОЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА АДЗІНАЙ ГІДРА-МЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ СЛУЖБЫ пры НКЗ БССР

# ДЭКАДНЫ БЮЛЕТЭНЬ ГАЛОЎНАГА КІРАЎНІЦТВА І ГІДРАМЕТІНСТЫТУТА

Адрас рэдакцыі: Менск, Шырокая 28. Галоўнае Кіраўніцтва АГМС БССР.
Тэл. 24271 і 23280.

| № 14 (127) | 21—31 кастрычніка | 1933 г. |
|---|---|---|



ЗМЕСТ



## ДА 16 ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВОЛЮЦЫІ.

Рабочы клас, калгаснае сялянства і ўсе працоўныя Савецкага саюза пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з правадыром сусветнага пролетарыята тав. Сталіным за 16 год існавання совецкае ўлады дасягнулі велізарных поспехаў на фронце социялістычнага будаўніцтва.

За гэты час „мы ператварылі нашу адсталую земляробчую краіну ў перадавую, прамысловую. Мы выпускаем прамысловай прадукцыі ў тры разы больш даваеннага часу. Дастаткова сказаць, што толькі за 9 м-цаў 1933 г. мы вытварылі 55 тыс. трактароў і 29 тыс. аўтамабіляў. Наша індустрыя можа вытварыць любую сучасную складаную машыну. Мы ўмацавалі абароназдольнасць нашай краіны і ператварылі яе ў непрыступную крэпасць пролетарскай дыктатуры. Мы правялі сплашную ка-

лектывізацыю ў асноўных раёнах і ператварылі нашую с. г. у самую буйную сельскую гаспадарку ў свеце. Соўгасы і калгасы ахапляюць 84% усіх пасеўных плошчаў.

Мы ліквідавалі беспрацоўе, ліквідавалі абнішчанне вёскі і паднялі беднату да ўзроўня серадняка. У гэтым годзе мы пры дапамозе палітаддзелаў зрабілі значны крок наперад па ператварэнню калгасаў у большэвіцкія, а ўсіх калгаснікаў у заможных. Мы значна павысілі культурны ўзровень нашай краіны, увялі ўсеагульнае навучанне, дзвінулі сотні тысяч маладых рабочых і сялян на аўладанне вышынямі навукі, тэхнікі і мастацтва" (Кагановіч).

Пры брацкай дапамозе пролетарыята Совецкага саюза рабочы клас і калгасныя масы сялянства БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на аснове ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі дабіліся велізарных поспехаў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

У параўнанні з даваенным часам прадукцыя прамысловасці БССР вырасла ў 10 разоў, а за гады першай пяцігодкі ў параўнанні 1927/28 г. у пяць разоў. Калі ў 1927/28 г. у цэнзавай прамысловасці БССР было 244 тыс. рабочых і служачых, то ў 1932 годзе мы маем 540 тысяч. Першая пяцігодка стварыла ў Беларусі тэхнічна-узброеную прамысловасць. У галіне сельскай гаспадаркі на I/VII-33 г. калектывізавана 50,3% сялянскіх гаспадарак. Значна павялічылася пасеўная плошча, калі ў 1916 годзе было 2389,4 тыс. га, то ў 1932 г.—3983,0 тыс. га.

Узмацнілася механізацыя сельскай гаспадаркі.

Выканаўшы з поспехам першую пяцігодку ў 4 гады—пяцігодку пабудовы фундамэнта соцыялістычнай эканомікі, партыя канчаткова вырашыла ленінскае пытанне „хто-каго" ў карысць соцыялізму, як у горадзе, так і ў вёсцы.

Гэтых поспехаў рабочы клас і калгаснае сялянства дабілася пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі ў жорсткай барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай, разграміўшы кулацтва як клас, якое яшчэ не дабіта, падрыхтаваўшы глебу для канчатковай ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул у другую пяцігодку.

У гэты час капіталістычныя краіны перажываюць на працягу 4-х год падрад жорсткі эканамічны крызіс, які ўсім сваім цяжарам абрушыўся на рабочы клас і працоўнае сялянства. Узровень прамысловасці прадукцыі капіталістычнага свету адкінут назад па чугуну на 34 гады, па вугалю на 27 год, па сталі на 26 год. Калі ўзяць асобныя капіталістычныя краіны то: Ангельшчына па вугалю адкінута назад на 76 год; Германія на 45 год і ПАЗШ на 42 гады. Капіталісты, каб аслабіць крызіс перавытворчасці, знішчаюць прадукты чалавечай працы.

У Даніі мяса перарабляюць у муку, якой адкармліваюць свіней. У Бразіліі спалілі 16 міл. мяшкоў кофе, г. з. 60% гадавога збору. У Іспаніі знішчаюць уловы рыбы (сардзін і др.). У ПАЗШ знішчана 6 млн. галоў свіней.

Буржуазія кідае лозунг: „Прыстрэліць кожную трэцюю малочную карову".—Гэта ў той час, калі ў той-жа Амерыцы 1.670 тыс. бескароўных фэрмераў, калі ў капіталістычных краінах 47 млн. рабочых з 160 млн. членамі сям'і паміраюць

ад голаду, сядзяць без куска хлеба, бяз прытулку, апалу і асвятлення.

Гэта ўсё гаворыць аб тым, што „капіталістычная сістэма прамысловасці не вытрымала экзамену ў цяжбе з совецкай сістэмай, што совецкая сістэма прамысловасці мае ўсе перавагі перад сістэмай капіталістычнай“ (Сталін).

Эканамічны крызіс у капіталістычных краінах уздымае рэволюцыйныя хвалі рабочых і сялян. Буржуазія шукае выхада з крызісу ў сусветнай вайне і інтэрвенцыі супроць Совецкага саюза, шалёнымі тэмпамі рыхтуючыся да гэтага ўстанаўліваючы фашысцкую дыктатуру для падаўлення рэволюцыйнага руху ўнутры краіны і правядзення імперыялістычнай палітыкі.

Наша задача і далей умацоўваць яшчэ больш абараназдольнасць нашай краіны Советаў—бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята, умацаваць нашу Чырвоную армію—вернага вартавога граніц Совецкага саюза і заваёў Кастрычніка.

Як ніколі зараз перад Адзінай Гідраметслужбай БССР ва ўсю шырыню пастаўлена пытанне абслугоўваць нашу соц. с. г., соўгасы і калгасы, прамысловасць, чыгуначны, паветраны і водны транспарт, абарону нашай краіны. З гэтай задачай, як паказала чыстка партыйнай ячэйкі Гідраметінстытута, мы, работнікі Гідраметслужбы, партыйная і комсамольская арганізацыя, прафсаюз—не справіліся. Цэнтральны апарат і перыферыя значна былі засмечаны антысовецкім і соцыяльна-чуждым элементам, якія „ціхай сапай“ на тых участках, на якіх працавалі, зрывалі абслугоўванне народнае гаспадаркі. План работы сістэматычна не выконваўся, работы 1931 г, перанасілі на 1932 год, з 1932 г. на 1933 г. і г. д. Тэмы першачарговага значання ў план не ўключаліся. Напрыклад, тэма аб прараканні туманаў. На працягу 4 год зрывалася будаўніцтва Геафізічнай абсерваторыі, а гэтым самым было замарожана імпартнае абсталяванне, набытае за мяжой у 1929 годзе для гэтай Абсерваторыі на 24 тыс. руб. валютай. Да гэтага часу не наладжаны зондавыя і змейкавыяназіранні, хаця і працаўнік для гэтай мэты падрыхтаваны—т. Валасецкі, які нічога не зрабіў па гэтаму пытанню.

У глыбокім прарыве на сёнешні дзень знаходзіцца Гідраметінстытут па выкананню вытворчага тэматычнага плана, на чале якога стаіць дырэктар т. Канавалаў.

Бюро надвор'я на чале з дырэктарам т. Варушыло не ўясніла аднэй з асноўных задач—гэта барацьбы за якасць прагнозаў. Прагнозы, якія даюцца, часта нізкай якасці, аб чым мы маем ужо шэраг сігналаў праз друк. Праца з гідраметкорамі не разгорнута.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў працы амаль зусім адсутнічала. Не было ніводнага комсамольца і комуніста ўдарніка (за выключэннем аднаго). Працдысцыпліна была слабая. Парушалася бюджэтная дысцыпліна і адсутнічаў гасразлік. Несваечасова высылаўся заробак работнікам перыферыі, былі выпадкі, калі зарплата не выплачвалася назіральнікам на працягу 8 м-цаў.

Чыстка партыйнай арганізацыі зрабіла рашучы пералом у бок перабудовы ўсяе працы Адзінай Гідраметслужбы БССР, значна навялічыліся шэрагі ўдарнікаў. Мы ўжо маем перадавікоў па

паасобных участках, паказваючых лепшыя прыклады па выкананню вытворчага плана, як у Цэнтральным апараце—аддзел апрацоўкі гідралагічных назіранняў—кіраўн. групы т. Нагераў, Метэаралагічны аддз.—кір. тав. Кучынскі, так і па перыферыі—ударная Гомельская Гідраметрычная стан., загадчык тав. Сямёнаў. Даюць лепшыя якасныя і колькасныя паказчыкі па конкурсу на лепшую мет. ст. у сваёй працы ст. ст. Горацкая, Полацкая, Менская, Віцебская і Калінкавіцкая. На прыкладах працы гэтых лепшых ударнікаў трэба к канцу 1933 года прыйсці з 100% выкананнем вытворчага гадавога плана па колькасці і якасці.

Ні на хвіліну не забываць указання тав. Сталіна, што „сутнасць большэвіцкага наступлення заключаецца перш за ўсё ў тым, каб мабілізаваць класавую пільнасць і рэволюцыйную актыўнасць мас супроць капіталістычных элементаў нашай краіны. Арганізаваць соцспаборніцтва і працоўны ўздым мас за пад'нянне прадукцыйнасці працы, за разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва".

*Мамаеў.*

## СІНОПТЫЧНЫ АГЛЯД

У пачатку дэкады поўнач Эўропы займае антыцыклон у масах кантынентальнага палярнага паветра.

На яго паўночнай перыферыі—у раёне Ісляндыі, Шпіцбергена, Барэнцава і Карскага мора адбываецца цыкланічная дзейнасць на арктычным фронце.

На поўдні Эўропы і Сяродземным моры ажыццяўляецца цыкланічная дзейнасць на палярным фронце.

Да 24 кастрычніка антыцыклон размяшчаецца сваёй цэнтральнай часткай на Эўрапейскай тэрыторыі Саюза, у ім дзякуючы выхаладжванню наглядаецца паніжэнне тэмпературы да прымаразкаў, перавага суцэльнай воблачнасці і туманы.

Развіццё цыкланічнай дзейнасці на крайнім паўднёвым захадзе Эўропы ў раёне Біскайскай затокі, якое намецілася ў пачатку дэкады, к 25 кастрычніка дастаткова аформілася і марудна прасоўвалася на паўночны ўсход—на Францыю і Германію, у сувязі з чым пачалося больш хуткае змяшчэнне антыцыклона з Эўрапейскай тэрыторыі Саюза к усходу, а на яго заходняй перыферыі ўтварылася цёплая паўднёвая цяга вятроў. У выніку ахаладжвання гэтага цёплага паветра, якое рухалася з поўдня, пачалі ўтварацца суцэльныя моцныя туманы.

Наогул у другой палове дэкады, БССР знаходзіцца пад уплывам з аднаго боку развіўшагася цыклона, а з другога боку—пад уплывам уходзячага на ўсход антыцыклона.

Таму наглядалася пахмурнае, з моцнымі суцэльнымі туманамі і выпадзеннем дажджа надвор'е, якое ўтрымлівалася да 30 кастрычніка, калі, у выніку далейшага прасоўвання цыклона к паўночнаму ўсходу—на Балтыку, з захада на Эўрапейскую тэрыторыю Саюза распаўсюджваецца марское палярнае паветра, што выклікае 31 кастрычніка ў БССР часовае памяншэнне воблачнасці і спыненне ападкаў.

*І. Рачыцкі.*

## Метэаралагічная характарыстыка за 21—31 кастрычніка 1933 г.

Тэмпература паветра ў гэту дэкаду мела наступны ход: 21-га яна хісталася ад 3 да 7°, потым пачала зніжацца і 25-га ў паўднёвай палове БССР дасягнула 0°, а ў паўночнай мясцамі нават —2°. Далей пачалося павышэнне т-ры да 30-га, калі яна дасягнула 9—12°. 31-га зноў т-ра знізілася прыблізна на 3—4°. Такім чынам, можна лічыць, што першая палова дэкады была халодная, а 2-ая вельмі цёплая. Сярэдняя т-ра за дэкаду на 1—2° вышэй нармальнай. Максімальная т-ра хісталася ад 12 да 15°, а мінімальная ад —6 да 0°.

Ападкі выпалі ў наступных колькасцях: у паўночнай і цэнтральнай зонах ад 10 да 20 мм. У пераходнай і паўднёвай на захадзе выпала каля 15 мм, а на ўсходзе каля 30 мм. На працягу дэкады ападкі размяркоўваліся наступным чынам: першыя 4 дні зусім сухія па ўсёй БССР. 25-га выпалі вельмі значныя ападкі, асабліва на поўдні, дзе яны дасягалі 20 мм за суткі (Турск—21 мм). Далей ападкі наглядаліся амаль кожны дзень, але ў невялікіх колькасцях. 31-га ападкаў амаль не наглядалася. 25-га ў першы раз наглядалася выпадзенне снегу.

Вятры пераважалі паўднёва-ўсходнія з сярэднімі хуткасцямі 2—4 м/сек., максімальныя хуткасці дасягалі 12 м/сек.

Воблачнасць складала 80—100% агульнага пакрыцця неба, сонечнае ззянне было вельмі нязначным і складала 10% магчымага.

*Н. Малішэўская.*

## Метэаралагічная характарыстыка за верасень м-ц 1933 г.

Сярэдняя тэмпература паветра ў гэтым месяцы хісталася ад 10 да 12°, павышаючыся ў напрамку з поўначы на поўдзень. Такая т-ра з'яўляецца некалькі паніжанай супроць нармальнай, на поўначы на 0,1°, у цэнтральнай частцы на 0,4—0,9° і на поўдні на 0,6—1,3°. Ход т-ры на працягу месяца быў наступны: у пачатку месяца наглядаліся высокія т-ры, да 13—15°, потым 6-га яны адразу панізіліся да 6—8°, з 10-га да 15-га зноў т-ра павысілася месцамі да 15—16°, а 16-га ўпала да 5—7°. У апошняй дэкадзе з 22-га да 28-га наглядалася павышэнне т-ры да 15—16°. Такім чынам, верасень у большасці быў цёплы, за выключэннем кароткіх халодных перыядаў. Максімальная тэмпература наглядалася 25—26-га і дасягала 21—22°. Мінімальная т-ра хісталася ад 1 да 4° і наглядалася пераважна 17-га. Замаразкі нідзе не адзначаны.

Ападкі выпалі ў наступных колькасцях: на паўночны захад ад лініі Новае-Каралёва—Асіпавічы—Слуцк выпала 60—70 мм, г. зн. некалькі больш нармальных колькасцяй, якія роўны 40—60 мм. На паўднёвы ўсход ад памянёнай лініі ападкаў выпала значна больш, прыблізна 100—120 мм, а мясцамі і яшчэ больш, напрыклад, у Оршы—166 мм, у Горках—182 мм, у Красілаўцы

## Табліца вынікаў метэаралагічных

| | №№ па карце | Назва станцый | Тэмпература паветра | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | Сярэдняя | Нармальн. | Максімальная | Мінімальная | Чысло, калі наглядалі мінімум |
| (Вазерны) | 2 | Дрыса | 3 | 1 | 1 | 0 | 0 | 2 | 5 | 8 | 8 | 9 | 6 | 4 | — | 14 | —3 | 25 |
| | 3 | Полацак | 3 | 1 | 1 | 0 | 0 | 2 | 8 | 8 | 8 | 10 | 7 | 4 | 3 | 15 | —4 | 25 |
| | 68 | Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 84 | Сураж | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 7 | Нова-Каралёва | 3 | 0 | 0 | —2 | —2 | 2 | 6 | 7 | 8 | 9 | 7 | 3 | 2 | 12 | —6 | 25 |
| (Вадападзельны) | 8 | Лепель | 3 | 1 | 1 | —1 | —1 | 1 | 5 | 8 | 8 | 9 | 6 | 4 | — | 14 | —4 | 25 |
| | 15 | Сянно | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 75 | Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 70 | Бобр | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 13 | Барысаў | 5 | 1 | 1 | 1 | —1 | 1 | 5 | 8 | 8 | 9 | 6 | 4 | 3 | 15 | —4 | 25 |
| | 16 | Менск | 5 | 1 | 1 | —2 | 0 | 1 | 6 | 8 | 8 | 8 | 5 | 4 | 3 | 13 | —4 | 25 |
| | 93 | Бярэзіна | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 23 | Мар'іна-Горка | 5 | 2 | 1 | —1 | 0 | 3 | 6 | 8 | 9 | 10 | 5 | 4 | 3 | 14 | —2 | 25 |
| | 25 | Асіпавічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 10 | Орша | 4 | 1 | 0 | —1 | —1 | 4 | 7 | 7 | 9 | 10 | 7 | 4 | 3 | 14 | —3 | 25 |
| | 19 | Горкі | 3 | 1 | —1 | —1 | —1 | 4 | 7 | 7 | 9 | 10 | 8 | 4 | 3 | 12 | —4 | 25 |
| (Раўніны) | 89 | Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 28 | Слуцак | 6 | 2 | 2 | 0 | 0 | 2 | 7 | 8 | 9 | 11 | 6 | 5 | — | 12 | —2 | 25 |
| | 119 | Ратміравічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 30 | Мар.-Сосны | 5 | 2 | 2 | 0 | 1 | 2 | 8 | 8 | 10 | 11 | 6 | 5 | 4 | 14 | —3 | 25 |
| | 21 | Магілеў | 4 | 1 | 1 | 0 | 1 | 4 | 7 | 7 | 9 | 10 | 7 | 4 | 3 | 13 | —3 | 25 |
| | 73 | Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 27 | Чэрыкаў | 5 | 2 | 0 | 1 | 0 | 4 | 7 | 7 | 10 | 10 | 9 | 5 | 3 | 11 | —2 | 25 |
| | 191 | Касцюковічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 31 | Турск | 5 | 2 | 2 | 2 | 0 | 6 | 8 | 8 | 9 | 11 | 9 | 5 | 4 | 12 | —2 | 25 |
| | 32 | Жлобін | 5 | 2 | 1 | 2 | 0 | 6 | 8 | 8 | 9 | 12 | 8 | 6 | 4 | 13 | —1 | 25 |
| (Нізіны) | 33 | Жыткавічы | 6 | 3 | 2 | 1 | 1 | 4 | 8 | 8 | 9 | 11 | 11 | 5 | 4 | 14 | —2 | 25 |
| | 37 | Калінкавічы | 6 | 2 | 2 | 2 | 0 | 6 | 8 | 9 | 9 | 12 | 8 | 6 | 4 | 15 | —1 | 25 |
| | 39 | Лельчыцы | 7 | 2 | 2 | 3 | 1 | 5 | 9 | 8 | 9 | 12 | 8 | 6 | — | 14 | —4 | 24 |
| | 85 | Чачэрск | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 83 | Барба | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 38 | Гомель | 6 | 3 | 1 | 2 | 0 | 6 | 8 | 8 | 11 | 11 | 10 | 6 | 4 | 15 | —2 | 24 |
| | 35 | Васілевічы | 6 | 2 | 1 | 2 | 0 | 6 | 8 | 8 | 9 | 12 | 8 | 6 | 4 | 13 | 0 | 25 |
| | 40 | Людвінава | 7 | 2 | 1 | 2 | 0 | 7 | 8 | 8 | 10 | 12 | 10 | 7 | 5 | 16 | —3 | 24 |
| | 242 | Красілаўка | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

## назіранняў за 21—31 кастрычніка 1933 г.

| Адносная вільготн. паветра за 13 г. у % | Тэмпература паверхні глебы | | | Ападкі ў мм. | | | | | | | | | | | | Метэаралагічная з'явы (у дужках азначаны числы) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Максім. | Мінімальн. | Чысло, калі нагляд. мінімум | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | Сума | |
| 82 | — | — | — | 0.1 | 0.2 | .. | 0.5 | 1.0 | 0.1 | 1.0 | 1.0 | 0.5 | 2.0 | .. | 6.4 | туман (22, 26) |
| 83 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 2.0 | 0.1 | 7.0 | 0.4 | 0.1 | .. | .. | 9.6 | туман (22, 26) |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 6.0 | 6.0 | 6.0 | 0.2 | .. | 2.0 | .. | 20.2 | — |
| 88 | 14 | —9 | 25 | .. | .. | .. | .. | 8.0 | 1.0 | 1.0 | .. | 0.5 | 2.0 | .. | 12.5 | туман (22, 26) |
| 79 | — | — | — | 0.1 | 0.1 | .. | .. | 4.0 | 0.1 | 7.0 | 1.0 | 0.1 | 0.4 | .. | 12.8 | туман (26, 28) |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | .. | .. | .. | 0.1 | 2.0 | 0.1 | 3.0 | 0.1 | 1.0 | 0.1 | .. | 6.4 | туман (27, 28) |
| — | — | — | — | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0 1 | 1.0 | 6 0 | 2.0 | 0.4 | 1.0 | 1.0 | 0.1 | 11.9 | туман (26), снег (25), |
| 87 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 5.0 | .. | 14.0 | 0.3 | 1.0 | 0.5 | .. | 20.8 | туман (26, 27) |
| 78 | 16 | —5 | 25 | .. | .. | .. | .. | 3.0 | .. | 6.0 | 2.0 | 3.0 | 0.1 | 0.1 | 14.2 | мяцель (25), туман (26— |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 80 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 8.0 | 0.1 | 9.0 | 0.2 | 1.0 | 0.1 | .. | 18.4 | туман (23), бура (28) |
| — | — | — | — | .. | .. | .. | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 0.4 | 4.0 | 2.0 | 7.4 | — |
| 90 | — | —6 | 25 | 0.1 | .. | .. | .. | 14.0 | 7.0 | 3.0 | ? | .. | 1.0 | .. | — | туман (27, 28) |
| 89 | 15 | —5 | 25 | .. | .. | .. | .. | 6.0 | 7.0 | 4.0 | 0.1 | .. | 11.0 | .. | 28.1 | туман (27, 28) |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 83 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 6.0 | .. | 5.0 | .. | .. | .. | .. | 11.0 | мяцель (25), туман (27— |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 88 | 20 | —6 | 25 | .. | .. | .. | .. | 7.0 | 1.0 | .. | 1.0 | .. | 0.1 | .. | 9.1 | туман (25, 27) |
| 88 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 15.0 | 8.0 | 7.0 | 1.0 | .. | 3.0 | .. | 34.0 | туман(25,26,27,28,29,30, |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 82 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 10.0 | 8.0 | 3.0 | 0.3 | 0.4 | 15.0 | .. | 36.7 | туман (23, 28) |
| — | — | — | — | .. | .. | .. | 0.1 | 5.0 | 11.0 | 1.0 | 0.4 | 0.3 | 14.0 | 0.3 | 32.1 | туман (26, 27) |
| 82 | 16 | —6 | 25 | .. | .. | .. | .. | 21.0 | 6.0 | 5.0 | 0.3 | 8.0 | .. | .. | 40.3 | туман (27, 28) |
| 84 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 17.0 | 4.0 | 3.0 | 2.0 | ? | ? | .. | — | туман (27, 28) |
| 75 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 3.0 | 1.0 | 5.0 | .. | 2.0 | .. | 0.2 | 11.2 | туман (26, 27) |
| 82 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 9.0 | 1.0 | 2.0 | .. | 0.2 | 3.0 | .. | 15.2 | — |
| 76 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 1.0 | 9.0 | 1.0 | .. | 3.0 | .. | 15.0 | туман (28) |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 78 | — | —3 | 24 | .. | .. | .. | .. | 13.0 | 9.0 | 2.0 | 0.3 | 0.1 | 12.0 | 0.1 | 36.5 | туман (26, 27) |
| 80 | — | —2 | 25 | .. | .. | .. | .. | 17.0 | 2.0 | 1.0 | 0.4 | 0.1 | 9.0 | .. | 29.5 | туман (30) |
| 84 | 14 | —2 | 24 | .. | 0.1 | .. | .. | 9.0 | 1.0 | 3.0 | 0.1 | 0.2 | 11.0 | 0.1 | 24.5 | туман (29, 30) |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

## Табл. вынікаў метэаралаг. назіранняў за 21—31 кастрычніка 1933 г.

| Кліматычны раён | №№ па карце | Назва станцый | Вецер: Пераважаючы: Напрамак | Вецер: Пераважаючы: Хуткасць | Вецер: З максім. хуткасцю: Напрамак | Вецер: З максім. хуткасцю: Хуткасць | Інсаляцыя ў %% | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Агульная | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Ніжняя | Сярэдні стан паверхнёвага пласта глебы (на глыб. 10—15 см.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I. Паўночны (Вазёрны) | 2 | Дрыса | SE | 4 | SE | 10 | — | 8 | 8 | вільготная |
| | 3 | Полацак | SE | 2 | SE | 7 | — | 8 | 8 | " |
| | 68 | Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 84 | Сураж | — | — | — | — | — | — | — | мокрая |
| | 7 | Нова-Каралёва | SE | 4 | SE | — | 11 | 9 | 8 | " |
| II. Пераходны (Вадападзельны) | 8 | Лепель | S | 4 | S | 10 | — | 8 | 8 | мокрая |
| | 15 | Сянно | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 75 | Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | мокрая |
| | 70 | Бобр | — | — | — | — | — | — | — | вільготная |
| | 13 | Барысаў | SE | 4 | S | 12 | — | 8 | 8 | " |
| | 16 | Менск | SE | 4 | SE | 7 | — | 8 | 6 | " |
| | 93 | Бярэзіна | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 23 | Мар'іна-Горка | SE | 4 | SW | 12 | — | 8 | 8 | вільготная |
| | 25 | Асіпавічы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 10 | Орша | S | 2 | SW | 7 | — | 10 | 8 | вільготная |
| | 19 | Горкі | S | 4 | NE | 10 | 10 | 10 | 10 | мокрая |
| III. Цэнтральны (Раўнінны) | 89 | Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 28 | Слуцак | SE | 4 | S | 10 | — | 8 | 8 | — |
| | 119 | Ратміравічы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 30 | Мар'іна-Сосны | SE | 4 | S | 4 | — | 10 | 10 | мокрая |
| | 21 | Магілеў | SE | 4 | SE | 10 | — | 8 | 8 | " |
| | 73 | Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 27 | Чэрыкаў | S | 4 | NE | 10 | — | 10 | 8 | — |
| | 191 | Касцюковічы | — | — | — | — | — | — | — | мокрая |
| | 31 | Турск | S | 4 | E | 7 | — | 8 | 8 | вільготная |
| | 32 | Жлобін | SE | 7 | E | 10 | — | 8 | 8 | " |
| IV. Паўднёвы (Нізінны) | 33 | Жыткавічы | SE | 4 | SE | 7 | — | 9 | 6 | вільготная |
| | 37 | Калінкавічы | SE | 4 | E | 12 | — | 8 | 8 | " |
| | 39 | Лельчыцы | SE | 4 | SE | 10 | — | 10 | 10 | — |
| | 85 | Чачэрск | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 83 | Барба | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 38 | Гомель | SE | 4 | SE | 7 | — | 8 | 8 | вільготная |
| | 35 | Васілевічы | SE | 4 | SW | 10 | — | 8 | 8 | " |
| | 40 | Людвінава | E | 7 | S | 12 | — | 10 | 10 | " |
| | 242 | Красіляўка | — | — | — | — | — | — | — | — |